Янка Купала.

# СОН НА КУРГАНЕ.

У 4-х абразох.

ПЕЦЯРБУРГ.
1912.

*Памяці*

свайго бацькі і брата.

*Аутор.*

# Абразы.

Абраз I. У пушчы.

Сам. Русалкі.

Абраз II. На замчышчы.

Сам. Чорны. Відмы.

Абраз III. Пажарышчэ.

Сам. Пагарэльцы. Вясельная дружына. Прыстаў.

Абраз IV. У шынкоўні.

Сам. Шынкар. Дзеўчаты. Госьці. Стражнік.

## I.

# У Пушчы.

Восень. Ноч. Лес. Глуха шумяць, калыханые ветрам, елкі і сосны; скрыпяць асіны і бярозы; с шэлестам валіцца на зямлю трупяжоўтае лісьце. Паміж трох адвечных дубоў—, мохам і гальлём усланы узгорак-курган; над ім, зачапіўшыся валасамі за галіны дубоў, тры вісяць русалкі і калышуцца. З усей мясьціны вее бязлюдзьдзем, чарам і жудою.

Русалкі, (разам).

Гу-та-та, гу-ля-ля,
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Ад сучка да сучка,
Ад куста да куста!

Ха-ха-ха! Вось яно,
Вось русалак жыцьцё;
Пушча—сосны, дубы,—
Вось і царство усё.

Жывём самі сабой,
Самі ўмеем мы жыць,—
Ніхто есьць не дае,
Не дае ніхто піць.

Днём ляжым, днём маўчым,
Як ня жывы мы днём,
А як ночка прышла—
Мы жывём, мы пяём.

Так калышэмся мы
Ад куста да куста...
Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гу-ля-ля, гу-та-та!

(Чуваць затрашчэлі сухіе сукі ад нечыіх ног).

1-я р у с а л к а.

Ці вы чулі, ці не?
Штось трашчыць каля нас.

2-я р у с а л к а.

Чула так сама я,
Вось напроці, якраз.

3-я р у с а л к а.

Пэўне воўк, ці мядзьведзь,
Бо хто-ж гэткай парой?...
Як вядома, хадзіць
Яны любяць сюдой.

1-я р у с а л к а.

Стукат толькі дзьвюх ног.

2-я р у с а л к а.

Ну, і што-ж там за дзіў:
Ў госьці к нам чэлавек,
Не інакш, заблудзіў.

У с е т р ы, (разам).

Чэлавек, чэлавек!
Не здарма пелі мы.
А цяпер хто куды,
Як начніцы, як сны.

(Атчэпліваюцца і разбегаюцца).

Сам, (выходзе, разгледаючыся).

Хаджу і блуджу я
Ўжо колькі гадзін
І, дзе ні ступлю я,
Не бачу пуцін.

Дубы ды хваіны,
Бярозы, вязы;
Скрыгочуць асіны,
Шыпяць верасы.

Кругом нейкі шорах,
Жуда, пустата;
Па долах, па ўзгорах
Легла цемната.

То нешта сьмяецца,
То нешта пяе,
То клічэ, здаецца,
То тут-жэ снуе.

Гоп, гоп! Не чуваці!..
Атказу німа.
Ой, пушча, ой, маці!
Ты зводзіш здарма.

Ох, зводзіш здарма ты,
Наслаўшы ламоў!
Я траплю да хаты,
Я траплю дамоў!

(Пашоў далей, разгледаючыся).

Русалкі, (выбегшы зза кустоў, разам).

Ха-ха-ха, вось так госьць,
Як з зямлі, як с травы!

Чэлавек, як і ёсьць—
З галавой і жывы.

Ці сюды, ці туды,
Ад калоды, ад пня.
Ўжо ня выйдзе ад нас
Аж да белаго дня.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Аж да белаго дня!

1-я русалка, (чэпляючыся ізноў за сук валасамі).

Як люблю я, люблю
Гутатацца вось так!
Як-бы дзе на градзе
Зацьвітаючы мак.

Помню гэта было
На зямлі між людзьмі:
Як любіла-ж яго
Сэрцэм, думкай сваймі!

Як бажыўся ён мне,
Што так любе і ён.
Сколькі ночэк зьвялі,
Сон ішоў нам ня ў сон.

Сон быў гэта, ах, сон.
Зноў зіма па вясьне:
Ён пашоў за другой,
Ён пакінуў мяне.

І тады, ах, тады
Адна сьцежка была —
Ці ў раку, ці ў пятлю...
Ну—ў пятлю я пашла.

І за тое люблю
Гутатаціся так,
Як-бы дзе на градзе
Зацьвітаючы мак.

Усе тры (разам).

Гу-та-та, гу-ля-ля,
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Як-бы дзе на градзе
Зацьвітаючы мак.

2-я русалка, (седаючы пад дубам).

Я сядзець так люблю,—
Гэта мой трон-пасад:
Бо-ж я княжнай была
Таму лет сто назад.

Прыгажэй за мяне
Не было наўвакруг;
Шмат пакорных тады
Ў сябе мела я слуг.

Найвярнейшы адзін
З іх мяне спадабаў:
Як шалёны хадзіў,
У мой бок пагледаў.

Знала мукі яго
Я усе на вылёт;
Як сьмяшы, ахў, сьмяшыў
Яко сумны паглёд.

Тады сэрца ў мяне
Не было, ці было...
Княжне меці яго—
Не да твару ішло.

Князь багаты, стары
Ажаніўся са мной,
А мой верны слуга
Заручыўся з ракой.

Вось за то і сяджу —
Гэта мой трон-пасад,
Бо-ж я княжнай была,
Лет таму сто назад.

Усе тры, (разам).

Гу-та-та, гу-ля-ля,
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Бо-ж я княжнай была,
Лет таму сто назад.

3-я русалка, (ходзючы па капцы).

Я снаваці люблю
То сюды, то туды,
Ўспамінаючы свой
Век з людзьмі малады.

Мы жылі у дваіх,
Як дзьве рыбкі ў вадзе;
Ён нідзе без мяне,
Без яго я нідзе.

Як любіліся мы,
Як быў ясен прастор!
Пнялі думкі свае
С сонца, месяца, зор.

А пасьля ад мяне
Адарвалі яго...
Узялі, павялі,
Не сказалі—чаго.

У мяне-ж, ах, прышло
Дзіцянётка на сьвет;
Хлопчык мілы такі,
Як-бы с кветак букет.

Стыдна стало ўжо тут
Мне за долю сваю...
Я ў пялёнках яго
Закапала ў зямлю.

Як нябошчык, жуда
Мяне ўсю абняла:
Я у горад аттуль
Пабрыла, уцекла.

Ну, пасьля гарадзкі
Брук мяне адалеў:
Хто мне лепей плаціў—
Ласкі лепшые меў.

З віном слёзы піла,
Час маланкай ішоў;
Не стрывала і там—
Уцекла ўжо дамоў.

Сьцюжай выла зіма,
Сьцежку сьнег засыпаў;
Дапляласся сяк-так,
Дзе маленькі мой спаў.

Абняла курганок,
Сьлёзы беглі с павек,
І заснула я там,
Ах, заснула на век!

І за тое сную
Так сюды і туды,

Ўспамінаючы свой
Век з людзьмі малады.

Усе тры, (разам).

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Так сюды і туды—
Ўспамінаем мы свой
Век з людзьмі малады.

(Чуваць зноу затрашчэлі сукі).

1-я русалка.

Зноў трашчыць у кустох.

2-я русалка.

Гэта, знаць, любы мой
Ўжо вярнуўся ка мне
Са старонкі чужой.

1-я русалка.

Не, ня твой, але мой
Зьменнік той ходзе, знаць,—
Зноў мяне палюбіў,
Будзе зноў цалаваць.

2-я русалка.

І ні твой, ні яе,
А мой верны слуга
Княжну ўспомніў сваю,
І ідзе, як магá.

3-я русалка, (як-бы сама да сябе)

Мо' нябошчык сынок?..

1-я русалка, (як раней).

Мо' татуля сівы?..

2-я русалка, (так сама).

Мо' стары князь, мой муж,
Ка мне йдзе—як жывы?..

Усе тры (разам).

Ну, ў кусты, хто куды!
Хай-жэ йдзе маладзец,
Пакуль блуду яго
Не надойдзе канец.

(разбегаюцца).

Сам, (разглядаючыся).

Ня сьлеп я, здаецца,
Здаецца не пьян,—
Зноў гэтае мейсцэ,
Той самы курган.

І ногі прысталі,
І хочэцца спаць,
А сьцежкі, чым далей—
Не знаць і не знаць.

Ці кінуў хто ўрокі
У кожны тут кут,
Ці ведзьмы ў нарокі
Мяне водзюць тут.

Так шумы пужаюць,
Чуць што дзе дрыгне;
А дома чэкаюць
Даўно ўжо мяне.

Гоп! гоп! Не чуваці,
Атказу німа.
Ой, пушча, ой, маці,
Ты зводзіш здармá!

Жартуеш здармá ты,
Наклаўшы ламоў...
Я траплю да хаты,
Я траплю дамоў!

(Ідзе далей).

Русалкі, (выбегшы, разам).

I не наш, і ні чый,—
Так сабе чэлавек.

1-я русалка.

Для спачынку яму
Я прыдумала лек.

2-я русалка.

І мне ведама ўжо.

3-я русалка.

Знаю я. Як не знаць?

Усе тры, (разам).

Вось тут на курганé
Яго ўложым мы спаць.

(Чэпляюцца ізноу валасамі за сукі і калышуцца).

Ха-ха-ха! Сёньні ўжо
Ён ня выйдзе атсюль.
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-та-туль!

1-я русалка.

Ах, успомніла я
Сваё ў летку жыцьцё;
Пільнавала тады
Я за вёскай жытцо.

Ужо сьпелы былі,
Як адзін, каласкі;
Вецер іх калыхаў
Вось так, так, на бакі.

Ласкаталі так мне
Яны твар, валасы;
Ласкатала іх я
Ад расы да расы.

Пільнавала іх я;
Ажно раз, нада днём,
К ім кабета ідзе,
Проста йдзе с фартухом.

Вочы ўпаўшы ў яе,
Не вясёла яна,
І худая уся—
Косць ды скура адна.

Як прышла, дый скубель
Каласкі так мае,
І адзін за другім
У фартух, як свае.

А я шась! а я ў сьмех!
Зьняў кабеціну страх,
Ды на ўцекі аттуль,
Толькі чула я—ах!

Разьвязаўся фартух,
А яна ўсё бяжы,
І разсеяла так
Каласкі па мяжы.

Ах, як сьмешна было!
Як сьмеялася я!

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

Усе тры, (разам).

Ах, як сьмешна было!
Ну, яна, ну семья!
Гу-ля-ля, гу-га-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

2-я русалка, (атчэпліваецца і садзіцца пад дзерэвам).

Ўжо недаўна было:
Пільнавала ў ваўсе
Так я грушу адну,—
Бач, хлапца к ей нясе.

Абарваны такі,
Адно зрэбье на ім;
Босы быў і усім
Тросся целам худым.

Як да йгрушы дабег,
А ўжо быў на ей плод,
Зірнуў, плюнуў ў руку,
І на йгрушу—як кот.

Як да верху далез,
Давай дзіч тую рваць,
І за пазуху ўсё
Напіхаці, хаваць.

А я тут галінкой
Па камлі грушы хлоп!
Ды вось як: сучком трэсь! (паказвае)
Зляцеў хлопец, як сноп.

Лятучы, зачапіў
Кашулёнаю сук,

І з запазухі ўсе
Грушы кучай стук-стук!

Не зьбераў, паляцеў,—
Уцекаў, як быў дуж.
А я ў хохат, у сьмех
І с хлапца і з ігруш.

Ах, як сьмешна было!
Як сьмеялася я!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

Усе тры, (разам).

Ах, як сьмешна было!
Ну, яна, ну семья!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

3-я русалка, (атчэпліваецца і снуе па кургане).

Ах, і здарыўся мне
Так-жэ сёлета сьмех.
Пільнавала лажка,
Дзе быў блізка начлег.

Траўка ладна ўжо
Ад зямлі адышла
І панаднай была
Для каня, для вала

Меў на воку яе,
Як хто толькі зірнуў;
Аж сьмельчак раз адзін
Так яе не мінуў.

Ночкай цёмна было,
Як на дне у вадзе;

Хмары месяц зьвялі,
Зоркі так-жэ нідзе.

Я ў травіцы сяджу:
Бачу, нейкі бедак
На худзенькім кані
Патцікаецца так.

Сядзіць конна, а ўвесь,
Як асіна, дрыжыць;
Падабраўся к лажку,
Як сава, ўкруг глядзіць.

Конь прыпаў да травы
І са смакам скубе:
Вельмі голадзен быў—
А я шась так сабе! (паказвае).

А конь скок! ды на ўцёк
У ваўсе капыты.
А ездак аб зямлю...
Устаў паплёўся ў кусты.

Адну толькі нагу,
Як калеку, валок,
А я ў хохат, у сьмех...
Такі сьмешны быў скок.

Усе тры, (разам).

Ах, ях сьмешна было!
Ну яна, ну семья!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

1-я русалка.

Але-ж дзе, але дзе
Гэты наш маладзён?

2-я русалка.

Мы тут пелі сабе,
А на сьцежку ўзбрыў ён.

3-я русалка.

Не яму пуціну
Ў гэтай пушчы найці.

Усе тры, (разам).

Пушча наша для нас—
Яе нашы пуці.

2-я русалка.

А каб пэўна было,
Пашукаць трэба нам.

Усе тры, (разам).

Пашукаць, паглядзець
Там і тут, тут і там!

(Разбегаюцца).

1-я русалка, (па хвілі варочаючыся).

Ха-ха-ха! блудзе ўсё,—
Разгледае кусткі;
З рук і ног кроў цячэ,
Сумны, бледны такі.

3-я русалка, (выбегаючы).

Ха-ха-ха! блудзе ўсё.
То аб пень, то аб лом.
І на неба глядзіць,
Як-бы там яго дом.

2-я русалка, (выбегае).

Ха-ха-ха! блудзе ўсё.
С сучкоў знакі кладзе.

Каб другі раз ня йсьці,
Перайшоў ужо дзе.

Усе тры, (разам).

Прыдзе, прыдзе сюды,
Хоць-бы млеў, хоць-бы чэз,
І засьне, ах засьне,
Як-бы ноч, як-бы лес.

1-я русалка.

Стойце! чую трэск я.

2-я русалка.

Ўжо ідзе.

3-я русалка.

Ах, як кот!

Усе тры, (разам).

А цяпер хто куды!
Песьні ў ход! чары ў ход!

(Разбегаюцца, толькі у паблізасьці чуваць с трох старон іхні хохат і — „гу-ля-ля, гу-та-та“).

Сам, (змучыуся, чуць ідзе).

Ўжо змогся саўсім я,
Змагла мяне цьма,
А сьцежкі-пуцінкі
Німа, як німа!

Спаткаў і ваўка ўжо—
Зуб ляскаў аб зуб;
Сава праляцела
І села на дуб.

С-пад пня выбег заяц
І ў гушчу пабег,—
А гэткі быў белы,
Як вапна, як сьнег.

Лізнула гадзюка
Хвастом каля ног,
Пабегла і недзе
Схавалася ў мох.

Ах, болей хадзіць, так
Блудзіць не магу!..
І сон не астаўся
Сабой у даўгу.

Пара атпачыці,
Дыхнуці пара,
Хутчэй мо' на небе
Узойдзе зара.

(Садзіцца на кургане).

Ах, як тут выгодна!—
Узгор, як пакой—
Мох, лісьця, чарнобель,—
Лес над галавой.

Ах, ах, як-жэ слаўна
Тут можна заснуць!

(Прыслуховаецца).

А ўсё нейкі шорах
Як чуць, так і чуць...

(Відам салавее).

Ох, муцяцца думкі,
Павекі—як звон!..

Хацінка... сямейка...
Ах, сон, ты мой, сон!..

(Засыпае. Русалкі выходзюць з укрыцьця).

1-я русалка, (нахінаецца і угледаецца на Сама).

Ах, прыгожы які!

2-я русалка, (як і першая).

І які малады!

3-я русалка, (так сама).

І чаго-ж, і на што
Заблудзіў аж сюды?

1-я русалка.

Як ён люба зладжыў
Ручкі пад галаву!

2-я русалка.

Як снапок, гэтак лёг
Тут на мох, на траву!

3-я русалка.

Сам сябе усяго
У клубочак сагнуў;
Як атпаўшы лісток,
Як нябошчык заснуў.

Усе тры, (разам).

Ха-ха-ха! як лісток,
Як нябошчык заснуў!

2-я русалка.

Цяпер сядзем пры ім,
Як тры кветкі ў вакне;
Ціха так, каб не знаў—
Ці на яве, ці ў сьне.

1-я русалка.

І навеім яму,
Пакуль сонцэ зірне,
Казку долі яго.

2-я і 3-я русалка, (разам).

Што?

1-я русалка.

Сон на Кургане́.

Усе тры, (разам).

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Пакуль сонцэ зірне,
Загадаем яму
Сьніці на кургане́.

(Садзяцца: дзьве—на абапал—у галаве, адна—у нагах. Ціха жаласьліва пяюць; шум лесу зліваецца з іх песьняй).

Сьпі, наш міленькі саколік,
Госьць наш не званы, не сланы!
Дням пагубляў ты даўно лік
Долі сваей не спынянай.

Мы над табою, мы—цені,
Поля і лесу начніцы,—
Казкай павеўнай асенім
Думкі твае злыбядніцы.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Казкай павеўнай асенім...

Сьпі, наш міленькі... Нікому
Гэткага сну не ссылалі:

Будзеш ты дома, за домам,
Будзеш ты бліжэй і далей,

Сокалам вольным па сьвеце
Будуць павевы насіці;
Вогнікі ўгледзіш на цьвеце,—
Будуць табе іх гасіці.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Будуць табе іх гасіці.

Сьпі, наш міленькі!.. Далёка
Неба глухога сьвітаньне;
Будзе нялёгка, нялёгка,
Покі дзень новы настане.

Мы цябе тутка атулім
Ласкай сваёю і песьняй,
Песьняю—лю-лі, ой, лю-лі!
Гетак панадне, уцешне.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гэтак панадне, уцешне...

Сьпі, наш міленькі!.. Вы, сосны,
Елкі, дубы і асіны,
Кіньце шумеці жалосна,
Пейце вясёлай часінай.

Выгляні, месяц беляны,
Сьветыч ад веку да веку,
Сьведкаю будзь неабманнай
Гэтаго сну чэлавека.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Сьведкаю будзь неабманнай
Гэтаго сну чэлавека.

Пад канец песьні падбліжаюцца—з аднаго боку воўк, а з другога — ліс і аподаль, на задніх лапах садзяцца; паміж іх падымаецца да палавіны гадзіна і глядзіць у старану сьпячаго; с-пад лазоваго куста высовываецца заяц і разгледаецца, з апошнімі славамі русалчынай песьні паволі апускаецца

ЗАСЛОНА.

## II

# На замчышчы.

Ноч. Старое замчышчэ, ці так сабе палац—калісь знаць важны—сягоньня напоў разваліўшыся. На ґзымсах паўрасталі палыны і крапіва; каля сьцен дзікіе рожы і акацыі памешаліся з лазой і непрыветліва шэлесьцяць. Вокны і дзьверы ўсе наглуха забіты таўстымі яловымі дошкамі. Ґанак (дзе і рэч адбываецца) каменны, на шасьці слупох—па тры с кожнага боку. Пусткай, гнільлём і зністажэньнем вее з усяго замчышча.

Сам, (патцікаецца к парадным дзьверам с тапаром у руках).

Колькі ўжо ночэк, колькі ўжо раз
Стукаўся ў гэтые сьцены.—
Вечна заходзіла штосьці не ў час
Мне на дарозе нязьменна.

Дзед мой нябошчык, калі уміраў,
Так гаварыў мне і тату:
Скарбы у лёхах замчышча схаваў
Хтось адзін вельмі багаты.

Трапіць-жэ можна ў ноч тую на сьлед,
Як з іх спадае закляцьце;
Толькі пары тэй ня ведаў і дзед—
Трэба яе адгадаці.

Летам, у восень, зімою, вясной
Гэтые пробую дзьверы;
Штось атпіхае, штось кідае мной,
З рук выбівае сякеру.

(Закладае лязо за дошку і мацуе).

Чорны, (паяўляецца ля сьцяны незаметна і хватаецца за сякеру).

Ты зноў сюды лезеш, нешчасны!
Ха-ха-ха! вось так навала!
Напрасна, мой мілы, напрасна,
Зноў цябе немач прыгнала.

Не дам я да скарбаў дастацца,
Варту я моцна трымаю;
Хто важыцца з мною змагацца—
Помач я крэпкую маю.

Ці просьбай, ці грозьбай, ці стонам
Стукнешся ў гэту мясьціну—
І ўсё на загубу: ня ўлезеш да скону
Ха-ха-ха! счэзьнеш скацінай...

Сам, (атступае ад дзьвераў, тапор з лоскатам валіцца на ґанкава каменьня).

Так ужо ёмка тапор залажыў,—
Меціўся дошку сарваці,—
Бач, як-бы сілы усе свае збыў;
Млее рука, не спазнаці.

Хаты свaей лягчэй зрушыць звяны,
Тут ня йдзе ў лік і ахвота.
Спробую толькі з другой стараны,
Мо' спрытней пойдзе работа.

(Закладае тапор так сама, з другога боку дошкі).

Ну, адрывайся, праклятый запор,
До' жартаваці са мною!
Сілы, больш сілы! ах, каб цябе мор!
Зноў не пакратаць рукою.

Чорны, (выбіваючы ізноў тапор).

Зубамі грызі, вийся ў ранах,
Сэрцам бі ў камень, як звонам,
Крывёю парог злі цэгляны,
Трупам тут ляж безгалоўным,

І с сьвету таго выглянь марай,
З небам аплутаўшысь дружбай —
Удар пярунамі с-пад хмараў,—
Я не пакіну тут службы.

Сам, (шукаючы тапара).

Дома ўжо нельга мне далей так жыць,—
Дом мой магілай халоднай;
Каменем поле сьцюдзёным ляжыць,
Плёны зьмёў вецер галодны.

Марна пад кроквай ржавее каса,
Недзе ўчапіці нарога...
Толькі чырвоная ўсюды раса,
Толькі к неўдачам дарога.

Гадзіны ўюцца вяроўкай ля ног,
Смокчуць кроў з жылаў піяўкі;
К Богу звярнуся—маўчыць нема Бог,
Сьцелючы ў пекле прылаўкі.

Людзі!... Што людзі? Ці ёсьць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі:
Мутнасьцяй, трупам нясе ад усіх;
Пошэсьцяй поўные грудзі.

Чорны.

Ха-ха-ха! Жыць табе трудна,
Цесна, хоць так сьвет вялікі,
Й думце з людзямі адлюдна,
Свойскае стало ўсё дзікім.

І долю ўжо як абязвечыў,—
Скарб цябе цягне закляты.
А колькі разоў ад мяне чуў:
Лезеш і тутка здарма ты!

Сам, (находзючы тапор).

Вось і тапор мой. К рабоце жывей!
Скарб дастаць мушу я гэты;
Ласкай павее тады ад людзей.
Неба і цэлаго сьвета.

(Замахіваецца тапаром у самые дзьверы; Чорны ізноў яго выбівае; Сам абяссілены валіцца на зямлю).

Чорны.

Калі-ж ты спагоніш ахвоту?..
Вянь павуцінай, травою;
Зьмешайся з гразёю, з балотам,
Стукай аб мур галавою..

Вясёлкай табе скарб сьмяецца,
Вогнікам зводзе бліскучым...

(Сам мацуецца устаць).

Што? Зноў табе, квольнік, здаецца,
Што сіл досьць маеш магучых,

Каб мяне тут паканаць, адалеці,
Вываліць дзьверы ў замчышчы.
Не! Перш магілай на сьвеце
Станеш свайго пажарышча,

Пакуль сюды ўвойдзеш не званы.
Кінь свае думкі, дзяціна.
Лепш чэрвем ад рана да рана
Ляж пад гнілою асінай.

Ха-ха-ха! і там жджы усходу,
Новаго ўсходу-прынады;
Пішчы там, як ка́ня ў пагоду;
Вый, як ваўкі на Каляды!

Сам. (шукае, поўзаючы на каленях, тапара).

Мусіць змацуе гэтая глуш.
Эх ты мой быт чэлавечы,
Ўдзержыць сякеры і то ўжо ня дуж,—
Корчацца ногі і плечы.

Як-бы тапор ужо толькі найсьці
Ў гэтай пустошы заломнай...
Дзе ён? Дамоў без яго-ж мне ня йсьці
Як-жэ тут цёмна, як цёмна!

(Дастае з-за пазухі смолку).

Маю на ўсякі прыпадак с сабой
Колькі смаляных патпалак,
Толькі запалкі...

(Мацае у кішэнях).

Ай, Божэ ты мой!
Дома забыўся запалак.

(Шукае і знаходзіць абмацкам тапор).

Ну, ўжо і так рэзачок свой знайшоў,

(Прабуе пальцам лязо).

Толькі аб камень зьбіў зубы.
Што-ж? Так сягоньня ўжо пойдзем дамоў, —
Вытачу заўтра, мой любы.

Эх, каб ешчэ ды папробаваць з раз
Гэтых струхлеўшых запораў.
Вось і напаў-бы у добры мо' час...
Там, эй, не знаў-бы ўжо гора.

(С трудам устае і пагледае на дзьверы).

Чорны.

Ты ўсё угледаешся ласа
Збыцца ня можэш пакусы;
Дам я табе тут папасу,
Толькі гуляй без прымусу.

Сам.

Ціха... Прыпомніў; ёсць мел у мяне.

(Находзіць за пазухай крэйду).

Ўчора на мысьль мне ўзляцела...
Чуў, што і поўнач тады не чапне,
Круг абвясьці толькі ўмела!

(Садзіцца пасярод ганку — бокам к дзьверам — на кучы друзу і мелам абводзе каля сябе круг).

Вось, мо цяпер і спазнаю усё,
Як найці к скарбу дарогу;
У поўнач тут, кажуць, свае йдзе жыцьцё,
Толькі-б не зняцца трывогай.

Трэба хоць песьню злегка зацягнуць,—
С песьняй сьмялей, кажуць людзі;

Мыслі благіе далей адлетуць,
Шорах так страшэн ня будзе
(пяе).

Атуманіла ночэнька цёмная
Нашы нівы і нашы сялібы,
І ўсім песьню пяе непрытомную,
Ў запацеўшые звонючы шыбы.

Ва ўсе сьцежкі блізкіе, далёкіе
Неспажыты уплўтаўся хворaст,
Сьцяг-прысады стаяць адзінокіе,
Агнецветны нявыгляне пораст.

Не заходзе, ідўчы прысадамі,
Падарожны з далёкаго краю
З добрай весткай, з ласкавымі радамі,
Аб жыцьці-небыцьці не спытае.

Не заходзе ніхто к нам са сьветычам,
Як пажар, як агністае сонцэ,
Неразвейнаго, вечнаго свету чым
Аслабешай уліўбы старонцэ.

Ходзім, блудзім, снуем без прыстанішч,
Атпраўляем старые малітвы
На забытым самімі курганішчы
Дзе сьпяць сьведкі нявыйграных бітваў.

Адно ветрам асіны хістаюцца,
Дзе сном слава заснула незваным,
Ды кручча на пажыву злетаецца,
Судзіць суд над жыцьцём закаваным.

Гэй, ты. гэй! наша ночэнька цёмная,
Завагніся ты сонца пажарам,

Распалі нашу долю заломную,
Не праклядьцем, а божым будзь дарам!

(Перэстаўшы пець).

Нейкую кашу, бадай, не з дабромъ
Ліха ўжо, ўзнаць, заварыла;
Сьвіст, бразгатня, тупаніна кругом.
Што за нячыстая сіла?!

Проста рабінава ночка прышла!
Жудасьць—дзе вока ня кіне...
Пацераў спробую, можэ імгла
Гэта шыпучая згіне.

(Шэпчэ пацеры. Чорны сьвішчэ: паяўляецца чалавек у лекайскім уборы і, падаўшы жалезны саганок, знікае. Чорны запускае у сярэдзіну саганка руку і, падыймаючы аттуль жменю золата, падтрэсае яго на далоні; грошы са звонам — як путаў жалезных — валюцца ізноў у гаршчок; Чорны ізноў аттуль іх бярэ і так усё перэсыпае. Сярод ночнай цемры, золота блішчыць чырвона—смольным жуткім полымем і, як сыпецца, выдае, быццам плыве нейкая крывавая поліўка).

Чорны.

Дзын-дзын-дзын, зьвіні, як жалеза,
Золата, звонка-званіста;
Зьвіні па жалезных нарэзах
Дзын-дзын, зьвіні ў звон ірдзіста.

Зьвініце ў звон золата, лозы;
Сыкайце, гадзіны, з гнёздаў;
Зьвініце ў звон золата, сьлёзы;
Блыск свой гасіце вы, зьвёзды.

(Вецер усіліваецца. Словы Чорнаго зліваюцца у нейкую дзікую музыку з бразганьнем грошы, шэлестам зарасьляў і скрыпам дошак забітых вакон і дзьвераў замчышча. Паяўляюцца—то з аднэй то з другой стараны ганку—відмы; Чорны кідае кожнаму з іх па колькі чырвонцаў на зямлю, — касьцятрупы хціва іх падбераюць, пзтходзюць к Саму і цянюють навокала яго — то падбліжаючыся, то аддаляючыся ад абведзенаго мелам круга).

Зноў ты, зноў ты непакоіш
Нашэ царства уладарства;
Зноў ламацi—думкі роіш—
Праўды нашай гаспадарства.

Вон адгэтуль, вон с парога!
Скарб пад нашымі замкамі.
Вон, якой прышоў дарогай:
Скарб пілнуе цемра з намі.

Хто закон наш не ўшануе—
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

2-е відма.

Што тут робіш? Хто асьмеліў
Падыйсьці пад хорам гэты?
За праступ такі на дзеле
Даць атказ свой мусіш мне ты.

Не на сьмешкі, не на жарты
Мы вартуем гэтых зломаў.
Скарб пад нашай схован вартай—
Не дадзім чапнуць нікому.

Вон адгэтуль на заўсёды!
І не важся ступіць кроку:
Усе выходы і ўходы
Наша мае страж на воку.

А хто варты не ўшануе,
Я здавлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

3-е відма.

Зноў на скарб наш вочы лупіш,
Зноў прыбрыў с сваей пустошы...
Здохнеш перш, чым к яму ступіш
Тут не банк, мой ты харошы.

Сотні лет і сотні плечаў,
З сотні ніў яго тут клалі,
А ты, відма чэлавеччэ,
К яму зубы так аскаліў.

Вон адгэтуль! Маё дзела
Ў тым, каб скарбу не praктаў.
Я ганю цябе, калелы,
Гэтым хорамам заклятым.

Хто граніц мне не ўшануе, —
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я—
Як вужакай, як гадзюкай.

4-е відма.

Скуль ты ўзяўся? чаго хочэш?
Кім пасланы, кім пазваны?
Што с сякерай тут ламочэш —
Па скарб лезеш захаваны.

Псуці хочэш нам машыны
Нашай фабрыкі цямрычнай...
Вон адгтуэль! вон, скаціна,
С сваей думай неабычнай!

Вон адгэтуль! Тут кpануці
Я нічога не пазволю:
Я ганю цябе акуцьцем
Гэтай хорамнай будоўлі.

Хто псуць фабрыку спрабуе—
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

5-е відма.

Ці ты блёкату напіўся,
І за лішне перамерыў?—
Аж пад мур наш заваліўся
С сваей востраю сякерай.

Не, не трапіў на пару ты,
Не туды прывёў бог шкляны...
Напаю цябе атрутай,
Аж патомак будзе пьяны.

Вон адгэтуль, покі цэлы!
Я ганю цябе законна:
Шкляным звонам, капляй белай,—
Царства нашаго аслонай.

Хто звадзіць шынк наш спрабуе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,—
Як вужакай, як гадзюкай.

6-е відма.

Ну, чаго сюды прыпоўз ты?
Ці табе не здаў хто рэшты?
Чаго лезеш горш каросты
І гішэфты мне псуеш ты?

Тут не гандэль, тут не крама:
Німа дзёгцю, німа солі...
Вон! Засядзь клапом пад трамай,
Шукай скарбу ў сваей столі.

Вон адгэтуль! вон са скурай!
Я ганю цябе сьвячніцай:
Вечнай плесьняй гэтых мураў,
Неспажытаю цямрыцай.

Хто гішэфты нам папсуе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

7-е відма.

Дужа, дужа так нягодна:
Праў сьвянцоных не шануеш;
Гэткай подласьцяй выроднай
Сабе пекла прыгатуеш.

Скуль ты маеш пазваленьне
Скарбам гэтым карыстаці?
Проч адгэтуль безадменна!
Ціха сядзь у сваей хаце.

Проч ад нашаго ўладарства!
Я ганю цябе павагай
Найвышэйшай земных царстваў!
Здрадай к сьвету, к цемры смагай.

Хто наш голас не ўшануе,—
Я здаўлю таго прынукай;
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

Чорны, (звонючы ўсё золатам).

Ў права, ў лева, ў лева, ў права
Аплетаці шчыльна, жвава

Абручамі ў знак, не ў знакі,
Як гадзюкі, як вужакі!

Відмы, (сплетаюцца за рукі і, як ланцугом, ачэпліваюць і кружацца навокала Сама).

Як гадзюкі, як вужакі,
Абручамі ў знак, не ў знакі

Аплетаці шчыльна, жвава
Ў права, ў лева, ў лева, ў права!

Чорны, (падымае і стукае аб саганок абломкам муру).

Гэй, на вырай, гэй, на жніва!
Толькі спрытна, толькі жыва.

Ў лева, ў права, ў права, ў лева
Па насьпелые пасевы!

Відмы, (расплетаючыся і збегаючы з ганку — кожнае у сваю старану).

Па насьпелые пасевы—
Ў лева, ў права, ў права, ў лева!

Толькі спрытна, толькі жыва,
Гэй, на вырай! гэй, на жніва!

Сам, (папраўляе ямчэй у руках тапор).

Што за дзіва, што за сіла
Тут сьвістала, скавытала.
Штось круціла, штось муціла,
Як вяроўкай, аплетала.

(Відмы па хвілі варочаюцца у тым самым парадку, але кожнае валачэ с сабой—зачапіўшы пятлёй за шыю—таварыша, каторы, астанаўліваючыся каля Чорнаго, кідае яму у саганок колькі медзякоў; пасьля відма садзіць свайго таварыша на кругу каля Сама канцомъ вяроўкі завязываючы рукі).

Товарыш 1-го відма, (кідаючы грошы).

Дзед і прадзед пахалі
Поле роднае тое,
А цяпер мне сказалі,
Што яно ўжо чужое.

З роднай выгналі хаткі,
Як-бы ім што я шкодзіў...
Эх, нясу ўжо астаткі,
Бо за праўду мне ходзе.

1-е відмо, (садзючы таварыша, да Сама).

Вось таварыш для хаўруса,
Каб не брала больш пакуса...

Сядзьце ціха, сядзьце зьмірна,
Як мак з макам—так абшырна,

Як дамоўкі—так глыбока,
Як злом камня—так высока.

Сэрца шэптаў атчурайся,
С тапаром сваім сквітайся.

Як не глянь сюды цекава—
Цемра тут закон і права.

Таварыш 2-а відма.

Як-жэ, як я стараўся
Сабраць гэтых шалегаў,—
І ў калоды цягаўся,
І падзённа ў двор бегаў...

Сцьюжа цісьнецца к хаце,
Жыта ўжо ані жменькі,—
А тут кажуць аддаці
За шнурок свой вузенькі.

2-е відма.

На, і ўчыцеся ахвоты
Шанаваць закляцьця сплёты.

Сядзьце роўна і пакорна:
Як калоды—так праворна,

Як у пні клін—так свабодна,
Як дамоўкі—так выгодна.

Ад граніцы да граніцы
Страж мая тут—паляўніца.

Дум згасіце ўсе праявы;
Цемра тут закон і права!

Тaварыш 3-го відма, (кабета).

Ад усходу да ночы
Так шла ў постаці звінна—
Смольлю пот лез у вочы,
Хоць круці—кашуліна.

А тут платы за многа
Кажуць, хоць гэтак мала...
Наце! што-ж? ваша змога,
Наша дзе не прапала.

3-е відма, (з насьмешкай).

Вось табе падмога ў працы
Па скарб лезьці у палацы,

Дабівацца ў валадарства
Цёмна-ночнаго мацарства.

Сядзьце квола, асьцярожна;
Гляньце там, тут а трывожна,—

Як пыліны—так забыты,
Як атопкі—так прыбіты.

Ажані тапор з неславай,—
Цемра тут закон і права!

Т а в а р ы ш 4-го в і д м а (аднарукі).

Як па праўдзе судзіці—
Мне належала-б плата,
А тут кажуць плаціці
За якуюсь там страту.

Руку рвучы, машына
Сапсавалася, праўда,—
Але ў чым-жэ я вінны,
Калі вінна прылада.

4-е в і д м а.

Ўсё для дружбы, ўсё для большай
Тваім думам збор вясёльшы.

Сядзьце роўна, жэлязіста,
Мазаліста і крывіста;

Як дым гутні—так цягуча,
Як час векаў—так жывуча.

Як авечкі—гэтак дружна,
Як падмуркі—так натужна;—

Скарб ня будзе тваёй стравай:
Цемра тут закон і права!

Т а в а р ы ш 5-го в і д м а.

Так усё аплуцілі—
Не найці ў сьвеце сьвета,

I ў дабавак пусьцілі
На пакусу звод гэты.

Ўзялі усё—дам апошкі:
Капля, кажуць, жалее;
Мо хоць трошкі, хоць трошкі
На душы прасьвятлее.

5-е відма.

Ўжо с пацехай ды вясёлай
К табе йду, мой ты дзябёлы.

Сядзьце шумна, як расохі,
Дурнапьян, чэртапалохі;

Як звон фляшэк—неўгамонна,
Як сама кроў—так чырвонна,

Як пагібель—так шчасьліва;
Затуманьце усе парывы,

Каб ня зводзіў скарб ласкавы...
Цемра тут закон і права!

Товарыш 6-го відма.

Так аплуціў, ачмуціў,
Як чэрвяк лісток вішні,
Хоць і знаю, што круце,
Хоць і знаю—што лішне.

Мушу даць, хоць ня штукі:
Зьмёў с тачка і паскрэбы;
Кажуць, лепшай прынукі
Не найці як—патрэба.

6-е відма.

На, і доўга не таргуйся,
І па скарб да нас ня сунься.

Сядзьце ціха, сядзьце скрыней,
Як-бы мухі ў павуціне.

Як кароўка—гэтак дойна,
Як свая цень—так спакойна;

Гібка так—як валаконцы,
Так працэнтна—як чырвонцы,—

І па скарб ня лезь аблавай:
Цемра тут закон і права!

Таварышы 7-го відма, (двое—старая кабета і падростак).

Кабета.

Каб хаця ужо сьвечак
Як найболей разнеціў,
Каб аж мой чэлавечэк
На тым цешыўся сьвеце...

На імшу на „задушкі“...
За жывёлку так сама...

Падростак.

За памершые душкі
Майго таты і мамы.

7-е відма.

Для навукі, для прымеру,
Як паступкам знаці меру...

Сядзьце складна і прыкладна,
Непакратна і нездрадна;

Як фігуркі вырэзаны,
Як бібулы малеваны,

Як грыбы ў сьпляснелай глебе.
Вочы к небу, губы к небу!

Ўсе жыцьця здушыце зьявы...
Цемра тут закон і права!

Чорны, (стукаючы абломкам цэглы па саганку з грашыма).

Ў права, ў лева, ў лева, ў права
Аплетаці шчыльна, жвава

Абручамі ў знак не ў знакі,
Як гадзюкі, як вужакі.

(Відмы ізноў сплетаюцца між сабой за рукі, ачэпліваючы і кружучыся навокала Сама і пасаджаных пры ім зьвязаных таварышаў. Глухашмяліна гудзяць — ні то пяюць; Чорны у тахт ім бразгае абломкам па саганку; скрыпяць дошкі; шэлесьцяць зарасьлі, вецер сьвішчэ у шчэлінах. Ўсё гэта зліваецца у вадну—нейкую пыкельна-шалёную мэлёдыю; нéма толькі сядзіць Сам і яго таварышы на грузах замчышча).

Відмы, (у вадзін голас).

Як гадзюкі, як вужакі,
Абручамі ў знак, не ў знакі

Аплетаці шчыльна, жвава
У права, ў лева, ў лева, ў права!

(Раптам асьвечывае ўсё замчышчэ пажарны блеск. Момэнт, відмы астанаўліваюцца і дзіка, злавестна глядзяць: вочы іх крывёй наліты, зьверскіе, прагавітные).

Чорны, (стукаючы абломкам па саганку).

Зноў на вырай, зноў на жніва,
Толькі спрытна, толькі жыва!

Ў лева, ў права, ў права, ў лева —
Па наспелые пасевы.

Відмы, (расплетаюцца: кожнае бярэ за вяроўку —між галавой і рукамі — звязанаго свайго таварыша і ў парадку, у якім прышлі, сходзюць з ганку пад звон Чорнаго грашыма).

Па наспелые пасевы—
Ў лева, ў права, ў права, ў лева,

Толькі спрытна, толькі жыва,
Гэй, на вырай, гэй на жніва!

(Чорны сьвішчэ. Паяўляецца і забірае саганок з грашыма той самы чэлавек, што яго і прынёс).

Сам, (усхапіўшыся з мейсца).

Што за дзіва, што за сіла
Зноў круціла, зноў муціла?...

Скавытала і сьвістала,
Як-бы путам аплетала,—

Ні то ў яве, ні с спрасоньня...
Што за ночка мне сягоньня?!.

Было цёмна, як у вулі, —
Хоць-бы ў вока пальцэм ткнулі,—

А тут відна ў гэтых грудах,
Хоць лічы іголкі ўсюдах.

(Узіраецца у той бок, скуль бьець большы блеск).

Што я бачу?.. Ці-ж быць можэ?..
Гэта-ж вёска!.. Божэ!.. Божэ!..

Жонка... дзіце... бацька... матка...
Ах, ты, хатка, мая хатка!

(Як шалёны, злетае с тапаром з ганку).

Чорны.

Ха-ха-ха-ха!..

ЗАСЛОНА.

III.

## Пажарышчэ.

Досьвітак. Непадалёку ад пажару. Пасяродку стаіць дзікая груша. Валяецца колькі галавешак. Далей—трохі ў права—пачынаецца палаючая вёска: з некатарых хат асталіся ужо толькі печі ды коміны а па бакох лежыць асмалеўше бярвеньня. Пажар падбіраецца пад другі канец вёскі. Калі-не-калі узрываецца вецер і даносе снапы іскар. Чуваць гул полымя і людзкіх галасоў.

1-ы пагарэлец, (цягнучы лаву).

Скуль і як яно ўзялося?
С чыей хаты занялося?..

Сплю, як толькі сьпяць у ночы,
Чую, лезе дым у вочы;

Усхапіўся, пагледаю:
Морэм полымя гуляе;

Сам не знаю, ў што ўчапіцца...
Ну за лаву—прыгадзіцца.

(Ідзе далей).

2-гі пагарэлец, (з андараком і каптаном бабскім).

...Мы с сваёй ешчэ не спалі:
Дзіцянётка калыхалі...

Раптам—відна... Я у дзьверы,
Ды ня ў дзьверы, а ў кут зьмерыў.

Сяк так выскачыў за хатку...
Бачу, косе ат пачатку

Агонь вёску, як памора;
Зноў я ў хатку... ах, ты, горэ!

Сам не знаеш, што ўхапіці;
Крычу жонцэ: бяры дзіце!

Сам хапаю сёе тое...
Чуць з душою, чуць з душою.

3-ці пагарэлец, (з маткòм і шпулькамі).

Я так крэпка сплю на печы:
Ажно тут—штурхель у плечы!

Глядзь; аж нехта качаргою
Мяне цягне, як дугою.

Ўжо ўстаю, ужо буджуся,
Злазіць с печкі ўжо лаўчуся...

Бух аб землю, як сноп жыта,
Проста бокам аб карыта!...

Хтось крычыць: барджэй-жэ, тата!...
Ломюць цягнуць усё с хаты...

Я—хвацель маток і шпулькі...

(Глядзіць за пазуху).

Ну, а люлька... німа люлькі.

Дзяўчынка, (с хлопчыкам—меньшым ад сябе, абое у вадных зрэбных кашулях).

Як маланкай, пашла хатка.
Чэравічкі і апратка.

Хлопчык, (праз слёзы разглядаючыся).

А дзе-ж татка? а дзе мама?

Дзяўчынка.

Ціха, братка: я так сама

Вось с табою іх шукаю,
Дзе-ж падзеліся—не знаю.

Ў гэты бок нясьлі кадушку.

Хлопчык.

Патсадзі—сарву я грушку;

Хочу вельмі піць і есьці.

Дзяўчынка, (патсаджываючы хлопчыка, с павагай).

Вось уздумаў грушы трэсьці.

Тутка гэткае нешчасьце, —
Не дзівота і прапасьці,
А ён, баш, с сваёй ядою!

Хлопчык, (саскочыў і грызе сарваную дзічку).

Пабяжым цяпер затое.

Дзяўчынка.

Ня лезь толькі ў вочы с плачэм:
Татку, мамку недзе ўбачым.

Хлопчык, (з радасьцяй адбегаючы з дзяўчынкай).

Недзе нойдзім, недзе ўбачым!

1-я кабета, (цягнучы саху, заплакаўшыся).

Што за ночка! што за ночка!
Не пакінуў і ламочка!

Як сярпом, зжынае, голе...
А стары, прост, сходзе с поля,

Галаву саўсім губляе —
Сам не знае, што хватае;

То у хлеўчык матанецца,
То ля пуні апынецца...

Ні прыстаньня, ні куточка...
Што за ночка! што за ночка!!

2-я кабета, (з дзіцянём у калысцэ).

Чуць усьпела, чуць з душою
Гэта выхваціць малое;

Асталася ступа, дзежка
І пасудак і адзежка.

Мой паехаў с кума братам —
Папрасіў — паехаў сватам,

І не бачыў і ня ведаў,
Як гарэла ўсё да сьледу,

Мо-б што больш уратавалі...
Так, саўсім, саўсім прапалі..

3-я кабета, (цягнучы на руках ягнё).

... Цягнем с хаты мы ламоцьце:
Зірк на хлеўчык — страху коце...

Я у хлеўчык — гнаць кароўку:
Як прывязана вяроўкай —

Ані з мейсца... тут авечка
С хлева ў полыме, як печку, —

Я ягнятка хваць за воўну,
А тут дыму ужо поўна...

Чуць у дзьверы, чуць папала,
А ўжо хатка дагарала.

Жыд, (з багамольлем і ліхтарамі; за ім жонка яго і чацьвёра дзяцей).

І стадола, і камора
Так ешчэ стаялі ўчора,

А сягоньня, як у яму,
Заваліліся і с крамай.

(Да жонкі).

Знаеш, чуў я ад Агаты:
Дзіцянё згарэло с хатай.

Жыдоўка, (с падушкай і халаю).

Мне казалі на прыгумні:
Чалавек звуглеў у пуні.

1-е жыдзянё, (с блешаным пудэлкам цукеркаў).

Вото-ж вочы дым кусае.

2-е жыдзянё, (са скруткам пэркалю).

Будзе-ж крама зноў такая?...

3-е жыдзянё, (са скрынкай с цьвекамі.)

Як-жэ гэты агонь страшэ

4-е жыдзянё, (з кульком мукі).

А як с козачкаю нашай?

(Ідуць далей).

(Чуваць званкі, пасьля ціхнуць; выходзіць з леваго боку вясельная дружына; маладая у вянку, малады с кветкай на грудзях, сват перэпасаны праз плечо белым ручніком, музыка са скрыпкай, закосьнік, маршалак і дзьве дзяўчыны — дружкі).

Маладая, (асоваецца бяссільна пад грушу, закрываючы рукамі заплаканые вочы).

Што тут стала? што тут стала?
Ўсё у дыму, ўсё прапала!

Дзе-ж мы сонейка сустрэцім?
Галавы прыкрыці нечым.

Малады, (садзіцца ля маладой, абнімаючы, прытуліваe к сабе і успакаівае).

Ціха, міленькая, ціха.
Як прышло, так пойдзе ліха;

Пагаруем, пабядуем,
Дасьць Бог — хатку адбудуем...

(Горка усьмехаючыся).

І вясельле дагуляем.

Мачыха маладой, (выбегае задыхаўшыся са стараны пажару).

Ах, ах! чым вас прывітаем?...

Чула, чула, галубочкі,
Вашы звонкіе званочкі!..

Так усе мы вас чэкалі:
Каравай прыгатавалі,—

А які-ж, ах, быў удачны!
Каб вы знали— які смачны!

Сват, (пьянаваты, панура).

Відно, смачны, бо смалілі,
Што аж хаты ў дым пусьцілі.

Маршалак.

Знаць, згуляці захацелі
Без шлюбоўнікаў вясельле.

Музы́ка.

Але толькі без музыкі —
Пад пажарные скавыкі.

Войчым маладога, (выходзе са стараны пажару с пустымі— як і мачыха рукамі).

Ну, прыехалі, нарэшце!
Вось чым сэрцэйка пацешце,
Малады і маладзіца.

Мачыха.

Мы ў суседавай сьвятліцы
Вас ад шлюбу выглядаем;
Гаманім сабе, чэкаем...

Войчым.

Як вам ведама—дзе мелі
Адгуляць вашэ вясельле.

Закосьнік.

Ў вашых можна-б скруціць ногі —
Ні разгону, ні падлогі.

Мачыха.

А тут раптам у ваконцы
Віднютэнька, як-бы ў сонцы!

Войчым.

Тут у лямэнт бабы, дзеці.

Мачыха.

К сваім хатам мы ляцеці.
Ўратаваці не прышлося.

Войчым.

Найперш з нашых занялося.

Мачыха.

Як-жэ собіла ў час гэткі
Замарудзіць так вам, дзеткі?..

Сват, (заметна манючы).

Мост зламаўся, ну, праждалі,
Покі броду атшукалі.

Войчым, (панура).

Знаем вашые мы броды:
Гэта так у нас заўсёды.

Соцкі, (выбегае с парожнім вядром).

А вы што тут сталі ў кучы
Ды, як мокрые анучы,

Не парушыцеся з мейсца?
То-ж не жарты вам, здаецца...

Патпаліў ўсіх нейкі злодзей...
Зараз воласць с прыскам пойдзе.

(Маладая свой вянок, сват ручнік а музыка скрыпку вешаюць на грушы, і ўсе ідуць за соцкім у старану пажару).

Стары, (з ім, разам, старая і іх нявестка з грудным дзіцем; нясуць стол, начоўкі і калыску).

Я казаў вам, што за блізка —
Пачарнела аж калыска.

Нявестка.

Ах, забыліся дайнічкі!

Старая.

Стаўма гэтта каля дзічкі.

Стары.

А, рабі ўжо, як там знаеш.

Нявестка.

Каго толькі не спытаеш —
Адным чынам, што нам хтосьці
Патпаліў сяло па злосьці.

Старая.

Каб звуглеў, як гэта сажа.

Стары.

Чымся слухаць, што хто кажэ,
Лепш папраў дзіцю пялёнкі.

(Усе атходзюць).

Нявестка, (на выхадзе).

Не забыць каб зноў даёнкі.

Дзяўчынка, (і хлопчык з ёй — абое ужо заплакаўшыся).

Дзе-ж той тата збег сягоньня?

Хлопчык.

Мамка ёсьць, але вон гоне.

Дзяўчынка.

Мамку маем і не маем.

(Ідуць далей, разгледаючыся).

Падростак, (дурнаваты, вядучы сьляпую бабу, каторая баючыся ступае).

Зараз, зараз сьвет пазнаем...

Сьлепая.

Ці ня зьбіўся ты з дарогі?—
Дзе ступлю, пячэцца ў ногі.

Падростак.

Ціха, бабка, пойдзе гладка;
Не сьпячэшся, як аладка;

Як ні бойся—не ўбаішся:
Ўсе сягоньня патпякліся.

(Убачыўшы ламацьцё).

А!.. начовачкі і столік!

Сьлепая.

Дзе-ж мы гэта, мой саколік?

Падростак.

А пад грушай, на узьмежку;
Сядзь пад ёй во, як пад дзежкай,

І глядзі на дым чырвоны,
З даля, як с-пад парасону.

Сьлепая.

А вагонь-жэ не дастане?

Падростак.

Ці-ж асьлепла, ясьне пані?—
Тут і чорт цябе ня чэпе.

Сьлепая.

А мо' далей пойдзім лепей?

Падростак.

Ну, садзіся; будзь спакойна:
Далей, бліжэй—усё роўна.

Сьлепая.

Усё роўна, мае дзеткі,
Мне ўжо сонцэ, ночка, кветкі.

Падростак, (угледаючыся на грушу).

А!.. ці бачыце, бабуля,
Як зрасьлі на йгрушы дулі:

Хвастач, скрыпка і вяночэк?

Сьлепая.

Кпі сабе, мой галубочэк!

Падростак.

Даліпан-то, не жартую...
(Стано́віцца на стале і хочэ дастаць скрыпку).

Вось так зараз запілую.

Старая, (выходзіць з ламацьцём; з ёй стары і нявестка).

Ты чаго на стол узбіўся?

Падростак, (саскаківаючы са стала).

Ціха, цётка, не сварыся; —

Мірам кончым гэту справу:
Я—на ўцекі, ты — пад лаву.

(Саскаківае са стала і адбегае на бок).

Стары.

Такі воласьць аборонюць.

Нявестка.

Дзе-ж? усіх к ратунку гонюць:
Мяне з дзіцем—то хацелі.

Старая.

З двара с помпай прыляцелі:

Людзі ім ваду цягаюць,
Яны кішкаю пускаюць

На закоты, на застрэшкі...

Стары.

Ну, ідзем, не ўзялі дзежкі.

(Атходзюць).

Падростак, (выбегшы з укрыцьця).
А цяпер мая ўжо скрыпка,
Толькі лоўка, толькі шыбка.

(Дастаў скрыпку і прабуе струн).

Вось зайграю ва ўсе плечы
Ад запечка ды да печы,

Ад парога да парога...

(Выбегае кабета—вар'ятка, сышоўшая з розуму праз пажар,—у зрэбнай спадніцы і кашулі—без каптана; на левай руцэ у яе—як дзіцянё—апкручана анучкамі галавешка, а ў правай—сьціскае у жмені нож; як выбегла—хлопец атскочыў на старану).

Варятка, (размахіваючы нажом).

Дай гасьцінец, дай дарогу!..

Жыў ніхто тут не залежэ:
Ўсіх пазводжу, ўсіх парэжу!

Вось так жніва, вось пакоша!
Дзе мой муж, дзе мой харошы

Німа мужа—і так дужа:
Ўсюды пойдзе крыві лужа.

(Угледаецца на сьляпую пад грушай).

Ты са мной яго жаніла,
Ты яго мне і спаліла...

Давай горла, бо іначэй
Сьвету боскаго не ўбачэ
Твой паглёд, зьмея, вужачы.

(Хочэ кінуцца з нажом на кабету).

Падростак, (падбегае і хватае з заду за руку).

Што ты, цётка, звар'яцела,
Ці мо блёкату пад'ела:

К сьляпой лезеш без баязьні,
Як угледзе, справе лазьню.

Чым людзей тут зарэзаці,
Лепш пільнуй свайго дзіцяці...

Вар'ятка, (с пачатку тузаецца, але пры слове: „дзіцяці", выпускае з рук нож і туліць к грудзям галавешку).

Лю-лі, лю-лі, мой сыночэк!
Лю-лі, люлі, сакалочэк!

(Дастае грудзі і хочэ карміць).

Падростак, (сам да сябе).

Проста, с поля сышла цётка.

Вар'ятка.

На, пасьсі, на, дзіцянётка!

Ты ня вер, што кажуць людзі,
Быццам таткі ўжо ня будзе.

Падростак, (сам да сябе).

Жджы к Пятру сырка, матуля.

Вар'ятка.

Маеш мамку, а татуля?...

(Неўспадзеўкі к падростку).

Я с табою ажанюся.

(Хочэ абняць яго).

Падростак, (сам да сябе).

Клепкі ўсе згубіла, мусе.

Вар'ятка.

Толькі, як вясельле ўстроіць?

Падростак, (сам да сябе).

Трэба бабу супакоіць.

(Да вар'яткі, паказываючы скрыпку).

Я пайграю—ты паскачэш.

Вар'ятка.

А вянок дзе?

Падростак, (паказываючы на грушу).

Ці-ж не бачыш?

Вар'ятка, (дастае вянок і кладзе на галаву).

А як с сватам і дружынай?

Падростак, (сам да сябе).

Ну, нявеста! каб лепш згінуў.

(Да яе).

Я ўсім буду, мая душка,—
Разам—сватам, мужам, дружкай.

(Дастае з ігрушы хвастач і—як сват—закручывае сабе праз плячо; адрывае кусок з лісьцямі галінкі і прычэплівае к грудзям).

Вар'ятка.

І музы́кай, і музы́кай.

(Глянула на сьляпую, і кладзе на галаву ёй кусок сухой галінкі, скруціўшы абручом).

А ты, імасьць, будзь нам сваццяй!

Падростак.

Час вясельле пачынаці.

(Садзіцца на калысцэ і пачынае іграць і прыпеваць; вар'ятка, цанюючы каля ігрушы, патцінае яму на языку).

Былі ў бацькі тры сыны,
Гоп я!
Ды ўсе-ж яны Васілі,
Гоп я!

Дзяўчынка і хлопчык, (выбегаюць і с плачэм кідаюцца да вар'яткі).

Мама! мама! дзе наш тата?

Вар'ятка.

Вон, ягнята, вон, шчэнята!

(Далей прыпевае пад музыку с падросткам).

Адзін коні пасе,
Гоп я!
Другі лапці пляце...

(Пачуўся са стараны пажару гоман і крыкі: „дзяржы моцна!“, „бі, колькі ўлезе»!)

Падростак, (прыслухаўшыся, ускаківае).

Цяпер, жонка, давай драла,
А то, каб не перэпала

І табе, і мне так сама.

(Выбегаюць абое).

Дзяўчынка і хлопчык, (бягучы за вар'яткай с плачэм).

Дзе наш татка? мама, мама!

(Уваліваецца гурмам куча людзей, валакучы і тузаючы Сама).

Сам.

Хоць зарэжце—ўсё мне роўна:
На начлезе быў сягоньня.

Пламя ўзгледзіўшы с папару,
Ратаваць бег ат пажару...

Я ня вінен, хоць зарэжце...

1-шы голас, (з грамады).

Лжэ сабака, праўду бэсьце:
Конь згарэў яго у хлеве.

Сам.

Хоць павесьце тут на дрэве,
На начлезе...

2-гі голас, (перэпыняючы).

А с сякерай,
Зьвёўшы хаты, ў воласьць мерыў?

Сам.

Як і вы, бег ратаваці
Вас усіх, як сваіх брацьцеў.

3-ці голас, (кабечы).

С тапаром і галавешкай,
Патцікаючыся сьцежкай...

4-ты голас.

Покі што, прывяжэм к грушы.

5-ты голас.

Хай-жэ тут мазгі пасушэ,
Як агнём агонь гасіці.

Сам.

Хоць зарэжце, хоць судзіце, —
На начлезе быў я толькі.

4-ты голас.

Ці німа ў каго вяроўкі?

3-ці голас.

Ўсе бярвеньня пагарэлі,
А вяроўкі каб ня стлелі?

4-ты голас.

Паясá мо хто пазычэ,
Посьле ўсё на ім палічым.

Колькі галасоў.

Хто аб пóясе тут думаў!

3-ці голас.

Я сяджу сабе у кума...

5-ты голас, (перэпыняючы).

Гэта-ж пояс свой ён мае.

4-ты да 5-го.

Я с табою прытрымаю,
А хай хто яго развяжэ.

3-ці голас.

На вяроўцэ ўсё раскажэ.

(Адвязываюць пояс; пасыпаліся з запазухі кускі смолкі).

1-шы голас.

Во, во! гляньце, чым прасьвіста
Ратаваў усіх нас чыста.

Колькі галасоў.

Нават смолка для патпалкі...

3-ці голас.

Пэўне мае і запалкі.

(Валакуць і прыціскаюць Сама плячыма к ігрушы, закручываюць рукі назад і зьвязываюць іх на другім баку ігрушы).

Сам.

Ратаваці бег с папару
Усіх чыста ат пажару.

1-шы голас.

Хай да дня тут перастое,—
Там убачым, што якое...

4-ты голас, (да сляпой бабы).

А ты май яго на воку.

(Хутка ўсе атходзюць у старану пажару).

Сам, (панура).

За німа што на вяроўку,
Як якога арыштанта...

Падростак, (выбегае са скрыпкай).

Фі! Якога бачу франта...

Вось абняў, ак дзеўку, грушу,
На'т рукамі не парушэ...

Я хоць з бабай ажаніўся,
Гэты-ж к дрэву прычапіўся.

(Да Сама).

Дрэнна, дзядзька! Не вялічкі
Смак пад дзічкай не ўрваць дзічкі.

Ну, пушчу цябе на волю,
Вазьмі бабу маю толе;—

Ўсяго першы дзень жэнаты,
А ўжо, хоць ідзі вон с хаты.

Адно ты мяне ня выдай...

(Хочэ развязаць пояс, але аглянуўшыся, уцекае).

Старая, (за ей нявестка падбегае, і хмурна ідзе стары, кідаючыся са сьлязьмі к Саму).

А!.. сынок мой, ці-ж ты збрыдаў
Хаткай, намі так без жалю?

Стары, (панура).

Ці то праўда, што казалі?

Старая.

Усё бацьком сказаць павінен.

Сам, (з болем).

Хоць зарэжце, я ня вінен:

На начлезе быў... С папару
Ратаваць бег ат пажару,
А яны мне...

Стары, (перэпыняючы).

Конь быў дома.

Старая.

Бег са смолкай і саломай
Ўжо пад воласьць, кажуць людзі.

Нявестка, (галосючы).

Што-ж, міленькі, цяпер будзе?

Ў ссылку могуць засудзіці,
А мне хоць ідзі ў сьвет з дзіцем.

Стары, (глуха).

Не жалеў ты бацькі, маці,
Ані жонкі, ні дзіцяці.

Старая, (сьлязліва).

Колькі бедненькаму мукі:
Зьбілі так, звязалі рукі.

(Хочэ развязаць).

Стары.

Не чэпай без часу, маці,—
Гэтым нам не ўратаваці,

Толькі можэ стацца горэй.
Усё роўна ўжо дзень скора:

На верх праўда выйсьць павінна,
Хоць-бы мела ўзяць нам сына.

Нявястка, (уціраючы сьлёзы).

Так, ці сяк—ня вернім хаткі...
Прынясём пайдзём астаткі.

(Уздыхаючы атходзюць).

Падростак, (падбліжаючыся).

Нудна, дзядзька! Мамка с таткам,
Ну, і жоначка з дзіцяткам,

Пагасьціўшы, разышліся:
Па апошнее пашлі ўсе.

Пакуль зноў хто прывандруе,
Я на памяць падарую

Паясок табе твой, дзядзька,
Пажалею лепш, як бацька.

(Развязывае саму рукі, той бяссільна асовываецца ля грушы. Падростак садзіцца на стале і пачынае з увагай строіць скрыпку).

Сам, (панура).

Усё сгарэла, ўсё, да-званьня —
С хатай воля і прыстаньне.

Сьлепа стануць сьведчыць людзі,—
Суд у катаргу засудзе.

З усім родным разлучуся...
Не вярнуся, а вярнуся—

Уся вёска сходку склічэ,
Мне праступкі ўсе палічэ;

Скажуць: ссыльнаго ня трэба...
Зноў без хаты, зноў бяз хлеба...

З дзіцем жонка ў чужых згіне,
А бацькі — у жабраніне...

На пагібель, на скананьне
Ўсё згарэла, ўсё да-званьня.

(Гаворучы усё гэта, круце у руках пояс, мацуе і мяркуе яго даўжыню, і жутка усьмехаецца).

Падростак, (раптам перэстаючы строіць скрыпку і угледаючыся у вадну старану).

Зноў сюды прэ мая жонка.

(Саскаківае са стала і ўцекае).

Сам, (як шалёны ускаківае на стол і завязывае за сук ігрушы пояс).

Будзь шчасьліваю, старонка!

(Укладае галаву ў пятлю і вісьне).

Вар'ятка, (ўлетае — так сама—з галавешкай і вянком).

Дзе мой нож? усіх парэжу!
Ніхто жыў тут не залежэ!

(Хватае, угледзіўшы, тапор).

Ўсіх парэжу, як авечкі, —
Пасяку ўсіх драбней сечкі!

(Глянуўшы на вісячаго Сама).

На пачатак гэту йгрушу
Ў сама горла трапіць мушу.

(Ускаківае мігам на стол і замахіваецца тапаром у шыю Сама, але пападае толькі ў пояс і перэсекае яго. Сам ешчэ с знакамі жыцьця, валіцца на зямлю. У вар'яткі выпадае з рук сякера; сыходзе са стала і пачынае ізноў галубіць дзіцянё-галавешку. Сам кашляе крывёй і хрыпла стогне).

Вар'ятка, (снуючы кругом грушы).

Лю-лі, лю-лі, мой сыночэк!
Лю-лі, лю-лі, сакалочэк!

(Туліць і хочэ карміць грудзёй).

Сьлепая, (маўчаўшая дагэтуль).

Што тут творуцца за дзівы,
Божэ ты мой літасьцівы?!

Стогнуць, плачуць і рагочуць...
Што ім трэба? Чаго хочуць?

Дзяўчынка і хлопчык, (выбегаюць ужо саўсім збедзіўшыся і асалавеўшы, і чэпляюцца за спадніцу вар'яткі).

Мама, мама, дзе наш тата?

Вар'ятка.

Вон, ягнята, вон, шчэнята!

(Снуе далей навокала грушы; дзеці ад яе не атстаюць. Выходзюць нясучы лаву і другое ламацьцё, стары, старая і іх нявестка).

Стары, (садзючыся ля стала на зямлі; панура).

Ну, цяпер ужо дажынкі.

Старая, (нахінаючыся над Самам).

Адвязаўся, бедачынка,

Сам атплутаўся, міленькі.

Нявестка, (з дзіцем на руках, такжэ нахінаючыся).

А як змучыўся усенькі!

Сам, (ачуняўшы трохі, стогнучы хрыпла).

Ратаваці бег с папару
Усіх чыста ат пажару.

Старая, (садзючыся з нявесткай наабапал яго, заламаўшы на каленях рукі, маркотна).

Што рабіці, што чыніці?

Нявестка, (нахінаючыся над дзіцем).

Німа чым і пакарміці:

Як спужалася, занылa
Малако ўсё.

Стары, (глуха).

Усё скасіла,
Прыскам, попелам пакрыла.

Сам, (с сумнай жаласьцю угледаючыся на дзіцянё, каторае працягівае да яго ручонкі).

Хіба ты, падросшы, дзетка,
Будзеш бацькі свайго сьведкай.

Маладая, (уходзючы з маладым; горка усьмехаючыся).

А цяпер вясельле справім.

Малады, (так сама).

Ежай, водкай стол заставім.

(Садзяцца на старане, абняўшыся, сумные).

Сват, (за ім уходзе музыка і дружына).

Прыстаў с стражнікамі едзе,
Затрымаўся толькі недзе.

Музы́ка і дружына, (разам).

Кажуць, едзе на дазнаньне.

Стары, (панура).

Як згарэла ўсё да званьня!

Падростак, (са скрыпкай, разгледаючы ўсіх).

Ну, цяпер то ўжо вясельле
Не такое, як мы мелі

Са сваёю маладухай.
Рэзнуць можна ім ад вуха.

(Строе скрыпку).

Музыка, (усхапіўшыся).

Ты, дзе скрыпку ўзяў, псяюха?

(Уходзе прыстаў, два стражнікі і куча пагарэльцаў за імі. Ўсе ўстаюць, сядзіць толькі сьлепая, падростак і Сам).

Прыстаў.

Что, друзья мои,—нешчасьце?

Колькі галасоў.

Так, так, барынька, прапасьці
Ні за грош усім нам трэба.

Прыстаў.

Ну, ну! ласкаў Господзь з неба.
Цяпер толькі, маі брацьці,
Ў пратакол усё спісаці —
Як і што -я мушу тутка.

Войчым маладога.

Гэта пойдзе, барынь, хутка.

Прыстаў, (садзючыся на патстаўленай яму лаўцэ і дастаючы торбу с паперамі).

Ну кажэце, як было ўсё.

Мачыха маладой.

Так пашло, як пачалося...

Соцкі.

Што-ж, пішэце: ўсё згарэла,
Толькі воласьць ацалела!
Двор памог ўратаваці.

Прыстаў, (запісываючы).

А з людзей?

Голос з грамады.

Дзіцё ў хаце,
Ну, і мужа кабяціны
(паказываючы на вар'ятку).
Гэтай сьпёк агонь.

Прыстаў.

Прычына?

Колькі галасоў.

Патпаліў во гэты злодзей.

Мачыха маладой.

Каб яму дна...

Прыстаў.

Годзе, годзе!

Войчым маладога.

Ўжо пад воласьць...

Прыстаў.

Як завецца?

Колькі голасоў.

Сам.

Прыстаў.

Пакуль што разьбярэцца,
Трэба ўзяць яго пад стражу.

Колькі галасоў.

Ніхай добра суд накажэ!

Прыстаў.

Дзе бацькі?

Колькі галасоў.

Ў такога зьвера...

Прыстаў.

Ё ў мяне для іх папера.

Стары і старая, (патходзючы к прыставу).

Гэта, барынька, мы будзем.

Прыстаў.

Вота-ж тут стаіць вам, людзі:

Даў на вашае прашэньне
Губэрнатар разрэшэньне

І праезд дзяшовы тожэ:
Ў хадакі ісьці сын можэ

Выбіраць зямлю ў Сібіры.

Стары і старая.

Дзякуй, барынька, вам шчыра.

Прыстаў, (складываючы торбу).

А цяпер, бывайце жывы!

Колькі галасоў.

І вам, барынька, шчасьліва!

Прыстаў, (да стражніка, паказываючы на Сама).

Забіраць яго с сабою!

(Стражнікі ўсьцягіваюць Сама за рукі з зямлі).

Колькі галасоў, (насьмешліва, гледзючы, як Сам устаючы хістаецца).

Баш, на ножэньках ня ўстое.

Сам, (стогнучы балесна).

Ратаваці бег с папару
Усіх чыста ат пажару...

(Вядуць яго ў лева, за ім з—заду прыстаў і пагарэльцы. Астаюцца: ўся вясельная дружына, войчым, мачыха, старые, іх нявестка, падростак, вар'ятка і сьлепая. Садзяцца: на зямлі — малады з маладой абняўшыся; ля іх непадалёку — сват, маршалакъ, закосьнік, дружкі, музыка, войчым і мачыха; стары—на лаве, зьвесіўшы галаву над сталом. Усе хмурные, сумные, некаторые заплакаўшыся. Гул ад пажару заціх, толькі вецер шалясьціць абтлеўшым лісьцям ігрушы).

Старая, (валючыся на зямлю, як паткошэная, ў сьлед выводженаму Саму).

Сына роднаго забралі!

Нявестка, (супакоіваючы, заплакаўшэеся дзіцё).

Над дзіцём ня мелі жалю.

Сьлепая, (сама да сябе).

Што тут творуцца за дзівы?
Божэ ты мой літасьцівы!

Стогнуць, плачуць і рагочуць.
Што ім трэба, чаго хочуць?

Старэц, (вышаў незаметна і стаў ля грушы, як стуль забіралі Сама. Увесь абвешаны па жэбрачаму торбамі: стаіць апёршыся абедзьвюмя рукамі на кію. Загаварыў глуха, панура, і тады толькі зьвярнуў на сябе ўвагу).

З грудзей вырві сваё сэрцэ,—
Зіму, лета сушы ў печцэ;

А як высахне, смалою
Зьлі жывою сэрцэ тое, —

Патпалі тады лучынкай,
Каб гарэла без упынку,

Як пажар гарэў сягоньня,—
І ідзі ў сьвет, як с паходняй:

Праўды йдзі так з ім шукаці...
Ты ня нойдзеш.

Дзяўчынка і хлопчык, (выбегаючы і чэпляючыся за вар'ятку, катирая усё снуе то сюды, то туды з галавешкай у руках і вянком на галаве).

Маці, маці!
Дзе наш тата, дзе наш тата?

Вар'ятка.

Вон ягнята, вон шчэнята!

Падростак, сядзіць аподаль на зямлі і пачынае іграць пагледаючы на музыку.

Былі ў бацькі тры сыны...

Паволі апускаецца

ЗАСЛОНА.

## IV.

# У шынкоўні.

Ноч. Зімой. Тракціp у канцы горада; з леваго боку дзьверы; каля сьцен расстаўлена восем столікаў; на сьценах вісіць колькі лубачных малюнкаў; у кутку з левай стараны вісіць абраз—перад ім цепліцца лямпка з алівай; па правай старане—буфэт і паліцы з бутэлькамі, за буфэтам—шынкар; пасярод карчмы, пад сталеваньнем, зачэплена вялікая лямпа; падлога ўся ў гразі і мокрая. С пачатку нікога німа, апрача шынкара і чатырох дзяўчын да паслугі,—пасьля пачынаюць сыходзіцца госьці, выглед маюць усе яны ўбогі, прыбіты, нешчасны. Ад трэцяго абразу прайшло колькі часу.

Шынкар.

Гасьцей, як вымела мятлою,
Хоць і мароз такі сярдзіты.
Бывала, гэткаю парою
Шынок увесь біткам набіты;

Таргоўля, йдзе аж глянуць люба —
Паўкварты, кварты, дзе там сотка!
Цяпер жэ ўсё ідзе на згубу —
Гніе закуска, сохне водка.

А ўсё, ўважаю, вы прычынай;
Гасьцей не бавіце дарэчы;
Што ўперад вас былі дзяўчыны,
Пры тых не знаў такой пустэчы.

1-я дзяўчына.

Э! Ваша толькі нарэкаеш.

2-я дзяўчына.

Забыўся, колькі было ўчора.

3-я дзяўчына.

Ешчэ сягоньня прычэкаеш,
Хай толькі добра сьцюжа зморэ.

4-я дзяўчына, (хмурна).

Як мухаў рой на мухаморы,
Збягуцца, фляшкамі зазвонюць;
Пакуль ахвоту ўсю спагонюць,
Пасуду высушаць бяз гора,
Табе кішэнь, як баш, напоўнюць.
(Чуваць топат на ганку).

Дзяўчыны, (разам).

А вось і госьць! Ці-ж не казалі?
(Уходзе двое).

1-шы.

Што за мароз пячэ сягоньня!
Як прыскам, вочы проста смале.

2-гі.

Ў казіны рог усіх загоне.
(Садзяцца ля першага століка з левай стараны).

1-шы.

А ну, дзяўчынкі, ці кабеты,
Хай там шынкар чаго патсучэ.

2-гі.

А крэпкай так, як мароз гэты;
А як агонь — такой пякучай.

1-я дзяўчына, (бярэ з буфэту дзьве чаркі, паўквартоўку, на каторую ўскладывае на шыйку тры абаранкі, і падае гасьцём).

Ніхай-же добра вас патсмажэ.

(Уходзюць двое).

1-шы.

Што за пракляты сівер смажэ,
Аж косьці ў крук, як шчэпкі, верце!

2-гі

Як воўк авечак, бярэ ў лапы.

(Садзяцца ля 2-га століка).

1-шы.

Што-ж! Дайце нам таей сусьветнай,
А толькі добра там адмерце!

2-гі.

Каб аж Люцыпар у праметнай
Разьвесіў дзіўлючыся ляпу.

2-я дзяўчына, (падаючы гарэлку, як 1-я).

І ў пекле лепшай не дастаці.

(Уходзе двое).

1-шы.

Гняце і даве да зарэзу...
Душу у целе не стрымаці.

2-гі.

Не акуе так і жалеза.

(Садзяцца ля 3-го століка).

1-шы.

Ніхай-жэ, ваша, там удружэ, —
Шынкар хай толькі знае дзела.

2-гі.

Каб аж трашчэлі сковы сьцюжы
І ўсё, ў нутры што накіпела.

3-я дзяўчына, (падаючы так сама, як І-я).

Не знаю што-- а трашчэць будзе.

(Уходзюць двое).

1-шы.

Прост, лёдам кроў сьцелася ў жылах,
Зледавацелі цэґлай грудзі.

2-гі.

Пячэ, як жаб агнём на вілах.

(Садзяцца ля 4-го століка).

1-шы.

Падай там нам! А каб хапіла,
Аж сівер каб ня змог, як трутняў.

2-ґі

Каб так нутро ўсё растапіла,
Як топюць шкло у печы гутняй.

4-я дзяўчына, (падаючы, як і І-я).

Хоць пад свой дом с такім патпалам.

(Уходзе двое).

1-шы.

Абвіўся гáдзінай халоднай,
Упіўся ў шыю, як жыгалам.

2-гі.

Як ястрэб птушку рве галодны.
(Садзяцца за 5-ты столік).

1-шы.

Гэй, гэй! жывей на стол прынаду —
Зальём атрутаю атруту.

2-гі.

А каб мацней была ад яду, —
Як сьмерць сама—так зьвіўнай, крутай.

1-я дзяўчына, (стаўляючы водку).

Кагось, ці штось, але атруце.
(Уходзе двое).

1-шы.

Як пяруном, стрэляе ў сьцены,
Кладзе нябошчыкаў ў бяспуцьці.

2-гі.

Людзей зьедае, як конь сена.
(Садзяпца за 6-ты столік).

1-шы.

Таей, што льецца зьмейнай хваляй,
Ў шалёным высвенцанай зельлі.

2-гі.

Каб аж нябошчыкі ўставалі,
Каб аж крыжы з магіл запелі.

2-я дзяўчына, (падаючы водку).

Хтось запяе, хоць мо' не ўстане.

(Уходзе Сам — адзін).

Сам.

На небе сонцэ зледаваціў,
Імглою зоры ўсе загаціў,
Зямлю патрэскаў на кургане.

(Садзіцца за 7-мы столік).

Ня будзьце-ж толькі скупы ў мерцэ, —
А крэпкай так, як кроў жывая;
Каб так паліла ў цэлым сэрцы,
Як хата родная палае.

3-я дзяўчына, (падаючы водку).

Крапчэй, як вар сьлязы сірочай;
А вагнісьцей, як крыўды вочы.

(У шынку усіліваецца гоман; дзеўчаты ўвіваюцца, падаючы гасьцём то водку, то піва).

Пры 1-м століку.

1-шы, (да 2-га)

Пі! Што глядзіш, як-бы нясьмела?
Пі, каб аж серцэ скрыгатала!
Каб аж душа, як дым, курэла
І дымам вочы засьцілала.

2-гі, (падымаючы с 1-м чаркі).

За згубу лепшай, сьветлай далі,
За працьвітаньне чорных хвіляў,
За тых усіх, што мяне гналі,
Пакуль аж тут не утапілі!

Пры 2-ім століку.

1-шы, (да 2-га).

Сам галавы сваей ня вешай:
Табе яе другі павесе...
Пі, каб аж процьму ўсю усьцешыў,
І ў гэтай сам струпееў пацесе.

2-гі, (падымаючы чарку).

За тые плецены прылады, —
За тых, што точенаю сталей
Былі ва ўсіх пуцях завадай,
Пакуль аж тут не прыкавалі!

Пры 3-м століку.

1-шы, (да 2-га).

Што гнеш свой карк, як вол у плузе,
Зямлю капаючы нарогам?
Пі, як канюх расу на лузе,—
Ярмо ты нойдзеш за парогам.

2-гі, (бяручы чарку).

За тые пухавы пасьцелі,
За торпы, стогі аж пад неба, —
За тых усіх, што хлеб мой елі,
Пакуль мне тут не далі хлеба!

Пры 4-м століку.

1-шы, (да 2-га).

Што круціш сумна галавою,
Як касьцеломнаю машынай?
Пі, каб аж трэсла ўсім табою,
Як трасе вецер павуцінай.

2-гі, (падымаючы чарку).

За тую комінную сажу,
За сьвіст гудкоў, за дым крывавы,—
За тых усіх, хто мяне пражыў,
Пакуль гарэць тут не заставіў!

Пры 5-м століку.

1-шы, (да 2-га).

Што сеў, як мокрая варона?
Пі, як кроў смокчуць с тваіх косьцей!
Заліся гараю шалёнай,
Каб аж тапелец пазайздросьціў.

2-гі, (падымаючы чарку).

За тые дзікіе напасьці,
За нашу братскую нязгоду,
За тых, што сьлед закрылі к шчасьцю,
А паказалі сюды ходы!

Пры 6-м століку.

1-шы, (да 2-га).

Не закладай рук, як-бы ўсыпаў
У печ апошнее згаруда.
Пі, каб аж вылецелі скрыпы
З грудзей тваіх, як с кол па грудах.

2-гі, (бяручы с першым чарку).

За тые збэшчэные сілы,
Што самі чэзнучы ў праклярцьці,
Усе з нас высмакталі жылы,
І сюды звабілі смактаці!

(Уходзюць тры дзеўчыны).

1-я.

Пусьціў на вуліцу уперад.

2-я

Людзкое ўсё зьдзёр, апаганіў.

1-я.

Цяпер сюды прэ, як у нерат.

3-я.

На славы, долі патаптаньне.

(Расходзяцца і прыседаюць к гасьцём).

1-я, (патсажываючыся к Саму).

Ты што адзін так, небарака,
І чаркі, бачу, не чэпаеш?
Са мною выпій, як са ўсякай,
І думай, што з дачкой гуляеш.

Сам, (падымаючы з дзяўчынай чарку).

За тых, хто родны край знiстожыў
І к цемрам вечным кладкі мосьце.
За тых...

Шынкар, (перэпыняючы Сама).

А што на сьвеце божым
Чутно цекавенькаго, госьці?

Пры 1-м століку.

1-шы.

Што-ж? Народ грэіцца, як можэ:
Агонь раскладывае ўсюды.

2 гі.

С кастры сплясьнеўшай і саломы...
І то ўсё грэюцца прыблуды.

Пры 2-м століку.

1-шы.

Масты старые йдуць на зломы,
Старые стаў паліць руіны.

2-гі.

Не збудаваўшы сабе новых—
Мець будзе духу, як з націны.

Пры 3-м століку.

1-шы.

Ўжо тлеюць вогнішчы у ровах,
Пяройдуць скора і на горы.

2-гі.

Пачаў патпал разводзіць з нізу,
Каб сам прапасьць лепш мог у норах.

Пры 4-м століку.

1-шы.

Стаў класьці ўжо на вокны маты;
Ў куты кладзе абноскі рызаў.

2-гі.

К вакнам прыладжывае латы,
А дзьверы насьцеж раскрывае.

Пры 5-м століку.

1-шы.

А ўсё-ж, і ў горадзе і то ўжо
Агонь на вуліцах палае.

2-гі.

І гінуць самі ў ім, як смоўжы,
Нагой сьляпою растаптаны.

Пры 6-м століку.

1-шы.

Але ахвота змагаць сьцюжу
Усіх с пасьцелі прэ ад рана.

2-гі.

Ахвотай і надзеяй дужы,
На дзеле-ж слабшые ад мухаў.

Сам.

Замала сівер ешчэ хухаў,
Замала пёк рабоў пакорных;
А ў думах выхаваны зморных,
Не знаюць, дзе пячэ, дзе студзе.

Мнішка, (увышла з двара і, адбіўшы паклон у старану абраза, абходзе столікі).

На манастыр і на храм Божы...

С 1-го століка.

С-пад храмаў лепш ідзі у людзі
Палоці грады, жаці збожэ.

С 2-га століка.

Лепш лён ідзі чэсаць і прасьці,
Для голых шый лепш кашулёны.

С 3-го століка.

Несла-ж ты помач у нешчасьці
Ў свае радзімые староны?

С 4-го століка.

У муры чымся зашывацца,
Ідзі лепш к працы на прасторы.

С 5-го століка.

Не мур павінен храмам звацца,
А цэлы сьвет—зямелька, зоры.

С 6-го століка.

Дзяцей ідзі лепш гадаваці,
На бітву будучую сілы.

Сам.

Йдзі сонца ўсходу выгледаці
Над сваіх прадзедаў магілай.

(Уходзе фокусьнік; мнішка з нічым выходзе).

Фокусьнік, (достаючы с-пад палы паперыну, зложэную гармонікам, і кланяючыся гасьцям).

З вашай ласкі, сазваленьня
Даць хачу вам прэдстаўленьне,
Каб вас лепш ахвота брала,
Лепш шынкоўня таргавала.

(Паказываючы).

Вось кусочэк вам паперы—
І ня белы, і ня шэры —
Ў сабе мае моц такую,—
Што захочэце, збудую.

Перш, во хата, як ёсць, хата,
Каля хаты—плот, як крата;
Мужычок сядзіць у хаце
І пляце сабе сам лапці.

А вось хорам, як ёсьць, дворны,—
Пабеляны і прасторны;
Хтось ля ґанку стаў без шапкі,
І цалуе пана ў лапкі.

Гэта фабрыка ўжо будзе,—
Вось закурэны ў ёй людзі;
Ў неба с коміна дым вале,
Як-бы душ там гатавалі.

Во—шынкоўня, як і наша,
Так галубе, як і страшэ;
Шынкарочэк за буфэтам:
Рад гасьцём зімой і летам.

Суд—будынак значэ гэты,—
Кругом вострые штахэты:
Заседаюць у ім судзьдзі,—
Брушкі тоўсты, ў бляхах грудзі.

А во! гэты мур цэгляны,
Нашым братам збудаваны:
У вокнах краты, тоўсты сьцены...
Ну,—астрог—наш хлеб штодзенны.

Тут сібірскіе абшары:
Поле пусткай, небо—ў хмарах;
Сьцюжа, лес сапуць пакутай,
Як-бы звоны вечных путаў.

Тутка—могілкі шарамі
Між лазовымі кустамі,
Толькі крыжа штось ня відна...
Знаць, яму тут стала стыдна.

А вось сельская зноў хата,
Каля хаты плот, як крата;
Мужычок сядзіць у хаце
І пляце сабе сам лапці.

Далей—тое ўсё, як казкай...
А за працу мне што ласка:
З гурту—нітачка, другая,
А ўжо голы пятлю мае.

(Апходзючы гасьцей с шапкай).

Будаваў без інжынера,
Без людзей і без сякеры.

Колькі галасоў, (кідаючы медзякі ў шапку, посьле чаго фокусьнік выходзе с шынкоўні).

Што-ж? ня дрэнные паперы.

(Па выхадзе фокусьніка, Сам пачынае нехаця званіць пальцамі па леры. Усе звертаюць на яго ўвагу).

Колькі галасоў.

А, лернік! Што там шэпчэш звонам?!
Грымні, каб чутна ўсім было нам.

Сам, (кладучы леру на каленях).

Канечна, мае голас лера,
Бы толькі слухалі вы шчыра

(Грае, манатонна напеваючы).

Ходзе сьцежкай-пуцявінай
Ад хаціны да хаціны
Лернік з лерай звонка-струннай,
Пагледаючы ў сьвет сумна.

Сонцэ потам палівае,
Ноч жудою спавівае,
Вецер сьвітку рве і шчыпе,
Сьнег у вочы смольлю сыпе.

Сыпе ў вочы, як пасеі,
Бараду яго развеіў
На старонкі на абедзьве—
Ён пляцецца ледзьве-ледзьве.

Плечы горб гняце пахіла,
Грудзі ўпалі, як магіла,
Чуць-чуць ходзяць ходам ногі
На дарогу, то з дарогі.

Ёмка ўжо трасуцца рукі:
Многа мелі, знаць, дакукі;
Толькі голас знае дзела,—
Дабываюць грудзі сьмела.

Чуць ідзе, а звоне з лерай
На старонкі на чатыры
І старой, і новай песьняй
Так магуча, так балесьня.

А каліж к нам зьмілаваньне
З дальней далі прыдзе, гляне?
Лад-парадак пазаводзе,
Думкі песьняй асалодзе?

А каліж к нам рыцар важны
Прыплыве Дунаем с княжнай?
Нас падыме, заахвоце
К лепшай славе і рабоце?

А каліж к нам прыдуць весьці,
Што пара усім засесьці
На пачэсным на пасадзе
Ў роўнай долі, ў роўнай радзе?

А каліж мы загуляем
За вялікім караваем,
Закалышэмся каронай
Ля дубровы ля зялёнай?

А каліж наклепім косы
На чырвоные на росы,
Што палеткі сушаць нашы,—
Хлеб людзям, а коням пашу?

А каліж песьняр вялікі
Нашай песьняй пусьце клікі
І гарой і даліною,
Дрогне небам і зямлёю?

А калі ўсё гэта будзе?
Дзе схавана, дзе марудзе?
Ходам ходзе,—не прыходзе,
А здаецца клічэм годзе...

Клічэм ка́ней на пагоду
Ад усходу да заходу,
Молім, сеем рэчкай сьлёзы
Ад марозаў да марозаў;

І нічога, а ўсё толькі
Паганяюць больку болькі,
Са старонкі левай, беднай
Маладзік стрэчаем бледны.

Ждуць пасеву горы, долы,
Нашы нівы, нашы сёлы,
Німа-ж мейсца ад залома
Ані ў полі, ані дома.

Пакрывіла сьцюжа хаты,
Пазметала стрэхі з латаў, —
Пазметала, не спытала
Ў чыстым полі пахавала.

Спад глухога неба хмары
Кветкі губяць на папары,
Бор хістаюць векавечны,
Дуб кладуць далоў няўсечны.

Усё палошчуць і дрыгочучь;
Хоць бы йшлі ўжо—йсьці ня хочуць.
Хто прагоне, хто ўбароне,
Крыжам ляжэ на загоне?

За гарамі, за даламі
Дрэме сонцэ нашэ з намі;
Ночка ходзе, не атходзе,
І сьляпой савой заводзе.

Ад далёкіх, блізкіх ветраў
На жывых напала нетра,
На забранай сенажаці
Стогнуць дзеці, плачэ маці.

Ані знаку агнецьветаў,
Праўды-маткі ня шлюць сьвету
Жыватворнаю крыніцай
Ад граніцы да граніцы.

Лернік-лазар ходзе плачэ,
І ніхто яго не бачэ.
Не прыходзе змілаваньне
З важнай весьцю ў добрым стане.

Усе мімавольна паўтараюць аношніе дзьве звароткі пад тахт песьні Сама. Пачыпаецца напеваньне бяз слоў, каторае паволі усіліваецца у нейкую жутка-сумную прыдаўленую мэлёдыю; становіцца што раз ясьней с чутнымі выразна славамі. Маўчыць толькі шынкар.

...Вырвалі счасьце, вырвалі вочы,
Думы паганюць неславай;
Сьцежкі заслалі цемраю ночы,
Рыюць у процьму канавы.

Тутка мы пьяны, ах, пьяны
Вечным праклядцем сваім:
Гоючы вечные раны,
Новые раны тварым.

*

Выжэй, ці ніжэй—цемра-пацёмкі:
Ўсходу-паходні не знаці.
Продкі ў магіле, ў путах—патомкі,
З намі, прад намі—безхацьце.

Тут пьяны мы, як сьляпые;
Сьлёзы з атрутаю пьём:
Помнючы петлі старые,
Новые путы куём.

*

Зьвязаны рукі, душы ў балоце,
Зьверства спраўляе Каляды;
Сьвіст ґруґановы целам калоце,
Га́дзіны сыкаюць здрадай...

Тутка мы пьём, не марудзім,
Вечнай адданы кляцьбе;
Даўных праступкаў забудзем,
К новым—пад'йюдзім сябе.

*

Хто лепш ярмом нас здаве, прыцісьне,—
Бьём таму ніжэй паклоны,
І ненавідзім так безкарысьне,
Як безкарысны ўсе нашы плёны.

Тутка мы пьяны, ах пьяны...
Як сэрцэ ядам зьмяі.
Тут, там нам праўда не знана—
Хто мы: зьвярмі, ці людзьмі?

(Уходзе малады стражнік; шынкар паказывае яму мейсцэ пры 8-м апошнім століку каля самаго буфэту. Песьня ізноў пераходзе ў нямы— баз слоў — гул. Скора за стражнікам уходзюць два музыкі — адзін са скрыпкай, другі—з гармонікам; як увышлі, ўсе перэсталі пець).

Колькі гасьцей, (разам).

Ціха! Ўжо прышлі музыкі.

(Музыкі садзяцца па левай старане, ля дзьвярэй, і зводзюць скрыпку з гармонікам).

С 1-го століка.

Як добра, што шынкар паклікаў...
Зайграйце, толькі-ж не фальшыва—
Як судзьдзі, купленые медзяй.

С 2-га століка.

Ніхай маланкай смык паедзе
А так сьвістуча, так ігрыва,
Як куля, пушчэная ў птушку.

С 3-го століка.

Як аплявухі, рэжце, звонам;
Гудзі гармошкай, як кадушкай,
Як бізуном гудзе аконам.

С 4-го століка.

Скрыпніце йскрыпкай і гармошкай,
А так піскуча, так прымерне
Як тые ў фабрыках шасьцерні.

С 5-го століка.

Зьвініце, йграйце пьяна—звонка,
Як шклянкі гэтые і фляшкі,
Каб аж забегалі мурашкі!

С 6-го століка.

Зьвініце, як ноч гэта звоне,—
Як на змазоленай далоні
Зьвініць апошняя капейка.

Сам.

Я чуў, шмат лет таму, жалейку ..

(Музыкі, глушучы далейшые словы Сама, пачынаюць іграць „ой-ра, ой-ра“; некаторые з гасьцей выкручываюць пьяна, у тахт ігры, за столікамі нагамі. Усе гаманяць і ў нос патпеваюць музыкам).

Сам, (як музыкі перэрвалі ігру).

А каб цяпер — „Волны Дунаю“...
Дунай я часта ўспамінаю.

(Іграюць „Волны Дуная“, усе ім патцягіваюць; пасьля—як падніманые з нейсца няведамай сілай—пачынаюць у пары з дзяўчынай круціцца выгляд кожная пара мае не натуральны —поўдзікі, пануры; асталь; ные—па адным пры кожным століку—седзяць і глуха патпеваюць музыкам: Сам так-жэ круціцца; стражнік сядзіць. Па колькі мінутах, атчыняюцца ў шынку дзьверы і двух мужчын уцягіваюць замёрзшую скасьцянеўшую кабету; ўсе, не дагледзеўшы гэтаго, час нейкі ешчэ круцяцца).

Шынкар, (так-жэ не зауважыўшы с пачатку).

Што гэта? Што? Сьвяты Бог з вамі!
Скуль вы с такою падарожнай?

1-шы мужчына. (Музыка і гульня ціхне).

Замёрзла тутка пад вакнамі,
Ешчэ к жыцьцю вярнуці можна.

2-гі мужчына.

Мы йшлі сюды шукаць начлегу,—
Глядзім—ляжыць, як корч, кабета.

Шынкар.

Нясіце сьнегу! Жывей сьнегу!
Сьнег памагае ў разох гэтых.

Нехта з гасьцей.

Так, як нябошчыку палонка.

(Усе апступліваюцца каля замерзшай і угледаюцца).

Стражнік, (атскаківаючы, як-бы спужаўшыся).

*Моя мамаша...*

Сам, (валючы ся на кален над замерзшй.

Мая жонка...

**Заслона.**

Пецярбург, 8/VIII, 1910 года.